ЭЛЕКТРОННЫ БЮЛЕТЭНЬ

# СМІ ў БЕЛАРУСІ

№ 3 (56)
ЛІПЕНЬ–КАСТРЫЧНІК
2018




## СПЕЦВЫПУСК «Справа БелТА»

ГА «БЕЛАРУСКАЯ АСАЦЫЯЦЫЯ ЖУРНАЛІСТАЎ»

WWW.BAJ.BY

*Мы атрымалі інфармацыю пра вобшукі і арышты ў шэрагу найбольш вядомых беларускіх СМІ. Гэтая інфармацыя выклікае ў Рады Еўропы глыбокую заклапочанасць... Неабходна прытрымлівацца заканадаўства, але расследаванні не заўжды патрабуюць арыштаў, якія трэба ўжываць у якасці апошняга сродку.*

***Даніэль Хёльтген,***
***афіцыйны прадстаўнік***
***Генеральнага сакратара Рады Еўропы***

*Мы атрымалі паведамленні аб ператрусах і арыштах журналістаў ў шэрагу незалежных СМІ у Беларусі. Такія дзеянні супярэчаць заяўленай Беларуссю палітыцы дэмакратызацыі і яе міжнародным абавязаньням. Павага асноўных правоў і свабодаў, уключна са свабодай выказванняў і свабодай СМІ, павінна быць захаваная. Мы далучаемся да заклікаў вызваліць затрыманых.*

***Фэдэрыка Магерыні,***
***Вярхоўны прадстаўнік ЕС***
***па пытаннях знешняй палітыкі***
***і палітыкі бяспекі***

# Сітуацыя ў галіне СМІ ў ліпені–кастрычніку 2018 г.



У ліпені – кастрычніку 2018 г. сітуацыя ў галіне СМІ ў Беларусі заставалася напружанай, нягледзячы на той дыялог, што вядзецца паміж Беларуссю, Еўразвязам і ЗША, у тым ліку па пытаннях правоў чалавека.

Працягваўся адміністрацыйны пераслед журналістаў-фрылансераў за супрацоўніцтва з замежнымі СМІ без акрэдытацыі. Колькасць і агульная сума штрафаў беларускім журналістам на падставе ч. 2 арт. 22.9 Кодэкса аб адміністрацыйных правапарушэннях («незаконны выраб і/ці распаўсюд прадукцыі СМІ») ужо ў жніўні 2018 г. дасягнулі паказчыкаў за ўвесь папярэдні год (які да гэтага быў “рэкордным”). Калі за 2017 год суды штрафавалі журналістаў-фрылансераў па ч. 2 арт. 22.9 КоАП 69 разоў, то ў канцы кастрычніка 2018 г. колькасць штрафаў журналістам па гэтым артыкуле перавысіла 90, а агульная сума склала больш за 80 тыс. беларускіх рублёў (каля 33 тыс. еўра).

У цэнтры ўвагі грамадскасці аказаліся крымінальныя справы, скіраваныя, у першую чаргу, супраць журналістаў і кіраўніцтва найбуйнейшага ў Беларусі інтэрнэт-партала TUT.BY і вядучай незалежнай інфармацыйнай агенцыі БелаПАН (крымінальны пераслед кіраўніка БелаПАН Алеся Ліпая і так званая «Справа БелТА»).




Па-ранейшаму застаюцца заблакаванымі ў Беларусі папулярныя інфармацыйныя сайты www.charter97.org і belaruspartisan.org. Працягваецца пазасудовая блакіроўка інтэрнэт-рэсурсаў. На працягу дадзенага перыяду Мінінфарм паведаміў пра абмежаванне доступу

як мінімум да 47 сайтаў (пераважна – за парушэнне заканадаўства пра рэкляму, якое не прадугледжвае такой меры адказнасці).

Папраўкі ў заканадаўства аб СМІ, якія ўзмацняюць дзяржаўны кантроль за інтэрнэтам, ухваленыя Канстытуцыйным Судом і афіцыйна апублікаваныя на Нацыянальным прававым інтэрнэт-партале. Яны набудуць моц ужо 1 снежня 2018 г.

**Закон, у прыватнасці:**

- **уводзіць дабраахвотную рэгістрацыю інтэрнэт-рэсурсаў у якасці СМІ, аднак захоўвае беспадстаўна складаны дазвольны парадак гэтай рэгістрацыі;**
- **пазбаўляе інтэрнэт-рэсурсы, якія не змаглі прайсці бар’ер рэгістрацыі, правоў СМІ, а іх карэспандэнтаў – журналісцкага статусу; пры гэтым распаўсюджвае на іх усе меры адказнасці, прадугледжаныя Законам аб СМІ;**
- **захоўвае пазасудовы парадак блакіроўкі інтэрнэт-рэсурсаў Міністэрствам інфармацыі і ўводзіць дадатковыя падставы для гэтага (напрыклад, выкарыстанне інтэрнэт-рэсурсу для ажыццяўлення забароненай у адпаведнасці з заканадаўчымі актамі Рэспублікі Беларусь дзейнасці);**
- **абавязвае інтэрнэт-рэсурсы ідэнтыфікаваць каментатараў на сваіх старонках і на форумах і праводзіць мадэрацыю іх каментароў пад пагрозай адказнасці за іх.**

Новыя нормы, якія ўсталёўваюць дадатковую адказнасць уладальнікаў інтэрнэт-рэсурсаў, уносяцца і ў Кодэкс аб адміністрацыйных правапарушэннях (арт. 22.9 «Парушэнне заканадаўства аб СМІ»). За распаўсюд інфармацыі, распаўсюд якой забаронены, усталёўваецца штраф, максімальны памер якога для СМІ (у тым ліку сайтаў, зарэгістраваных у якасці СМІ), складае 200 базавых велічыняў, а для ўладальнікаў інтэрнэт-рэсурсаў, якія не маюць статусу СМІ, – 100 базавых велічыняў (каля 2000 і 1000 еўра адпаведна). Кантроль за выкананнем заканадаўства пра СМІ ў гэтай галіне ўскладаецца на супрацоўнікаў міліцыі.

# «Справа БелТА»

7 жніўня стала вядома пра ўзбуджэнне Следчым камітэтам Рэспублікі Беларусь у дачыненні да шэрага журналістаў крымінальнай справы паводле ч. 2 арт. 349 КК (несанкцыянаваны доступ да кампутарнай інфармацыі, здзейснены з іншай асабістай зацікаўленасці, які пацягнуў прычыненне істотнай шкоды), якая прадугледжвае ў якасці максімальнага пакарання пазбаўленне волі на тэрмін да двух гадоў. Паводле афіцыйнай версіі пры праверцы паведамлення дзяржаўнай інфармацыйнай агенцыі супрацоўнікі МУС выявілі шматлікія факты неправамернага доступу да кампутарнай інфармацыі БелТА (доступу да падпісной стужкі агенцыі пад чужымі паролямі). У заяве Следчага камітэта паведамлялася, што «да ўказанай супрацьпраўнай дзейнасці датычныя службовыя асобы выдавецкага дома «Беларуская навука», ЗАТ «БелаПАН», ТАА «Тут Бай Медыя».




7–9 жніўня ў рэдакцыях інфармацыйнай кампаніі БелаПАН, партала TUT.BY, рэдакцыях некаторых іншых СМІ, а таксама ў кватэрах шэрага іх супрацоўнікаў прайшлі вобшукі, падчас якіх былі канфіскаваныя прафесійная тэхніка і носьбіты інфармацыі. Былі затрыманыя галоўны рэдактар БелаПАН Ірына Леўшына і міжнародны аглядальнік кампаніі Таццяна Каравянкова, галоўны рэдактар TUT.BY Марына Золатава, а таксама рэдактары Ганна Калтыгіна, Галіна Уласік і Ганна Ермачонак, уласны карэспандэнт «Нямецкай хвалі» Павел Быкоўскі, рэдактар інтэрнэт-сайта газеты «Беларусы і рынак» Аляксей Жукаў. Усе яны правялі некалькі сутак пад вартай у ізалятары часовага ўтрымання. Перад вызваленнем з іх узялі падпіску пра неразгалашэнне. Агулам па гэтай справе былі дапытаныя 18 чалавек.

Дзеянні следчых выклікалі пратэсты з боку праваабаронцаў, журналісцкіх арганізацыяў і міжнародных структураў (у тым ліку Рады Еўропы, Еўрасаюза, Прадстаўніка АБСЕ па пытаннях свабоды СМІ).

На думку ГА «БАЖ», прэтэнзіі адносна меркавана зробленай БелТА шкоды павінны былі разглядацца ў грамадзянска-прававым парадку. Артыкул Крымінальнага кодекса, па якім затрымлівалі журналістаў і праводзілі ў іх вобшукі, скіраваны супраць хакераў, якія ўзломваюць сістэмы абароны кампутараў, а не супраць журналістаў, якім нехта з іх калегаў перадаў паролі. Да таго ж усе навіны БелТА, якое фінансуецца з дзяржаўнага бюджэту і створана для распаўсюду ўрадавай інфармацыі (маючы пры гэтым прывілеі па доступе да гэтай інфармацыі), знаходзяцца ў адкрытым доступе. Падпіска дазваляе атрымліваць іх усяго на 15 хвілінаў раней, чым яны выстаўляюцца на сайт інфармагенцтва. TUT.BY і БелаПАН, якія зазналі найбольшы ціск, выконвалі ўсе ўстаноўленыя БелТА правілы выкарыстання іх інфармацыі пры яе выкладзе. Пераслед гэтых незалежных інтэрнэт-рэсурсаў звязаны, на думку БАЖ, з тым, што яны значна апярэджваюць па папулярнасці дзяржаўныя інтэрнэт-рэсурсы, уключна з БелТА.



Гэта пацвярджаецца і тым, што раней, 12 чэрвеня 2018 г., была ўзбуджаная крымінальная справа ў дачыненні да кіраўніка БелаПАН Алеся Ліпая. Яго абвінавацілі ў наўмысным ухіленні ад выплаты падаходнага падатку ў асабліва буйным памеры (ч. 2 арт. 243 Крымінальнага кодэкса Рэспублікі Беларусь). Беларускія праваабарончыя арганізацыі заявілі пра палітычную падаплёку справы і звязалі яе з агульнай тэндэнцыяй узмацнення ціску на недзяржаўныя СМІ і інтэрнэт-рэсурсы ў Беларусі (уключаючы ўнясенне зменаў у заканадаўства аб СМІ).

23 жніўня Алесь Ліпай памёр ва ўзросце 52 гады. Расследаванне яго справы было спынена 12 верасня ў сувязі са смерцю.

У пачатку лістапада фігурантам «справы БелТА» пачалі прад'яўляць абвінавачанні. Абвінавачанымі сталі 14 журналістаў; не выключана, што гэты лік не канчатковы.

Пасля прад'яўлення абвінавачання следчыя прапануюць журналістам кампенсаваць фінансавую шкоду, нібыта прычыненую БелТА (і некаторым дзяржаўным СМІ, паролі якіх былі выкарыстаныя для заходу на стужку навінаў БелТА). Па словах следчых, гэта можа прывесці да спынення крымінальных справаў і перакваліфікавання іх у адміністрацыйныя (арт. 22.6 Кодэкса аб адміністрацыйных правапарушэннях «Несанкцыянаваны доступ да кампутарнай інфармацыі» ўсталёўвае адказнасць у выглядзе штрафу ад 20 до 50 базавых велічыняў, то бок прыблізна ад 500 да 1225 еўра).



Сумы шкоды, прапанаваныя да кампенсацыі, і методыку іх разлікаў следчыя называюць следчай таямніцай. Як паведамілі некаторыя журналісты, гэтыя сумы вагаюцца ад 3000 да 17000 рублёў (ад 1250 да 7000 еўра).

Большасць журналістаў прынялі рашэнне пагадзіцца на выплату шкоды. БАЖ лічыць гэта вымушаным крокам з іх боку дзеля прадухілення нашмат больш жорсткага пакарання паводле крымінальнага артыкула і іншых неспрыяльных наступстваў, звязаных з крымінальнай адказнасцю. Аднак выплата сумаў шкоды не гарантуе спынення крымінальнага пераследу абвінавачаных.





**ГА «БЕЛАРУСКАЯ АСАЦЫЯЦЫЯ ЖУРНАЛІСТАЎ»**

**WWW.BAJ.BY**

**2018**



Выдавец:
ГА «Беларуская асацыяцыя журналістаў» (ГА «БАЖ »).
БЕЛАРУСЬ, 220004, Мінск,
вул. Кальварыйская, 16-265

Тэл.: +375 17 203-63-66, 226-70-98.
Факс: +375 17 203-63-66, 226-70-98.
E-mail: press@baj.by
Web: www.baj.by

Кантакт:
Бастунец Андрэй Леанідавіч,
старшыня ГА «БАЖ»